


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude
Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a
Цана паза Нямеччынай: ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.
Банкавае конто: Bankkontonummer 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 34 (216) — Нядзеля 12 верасьня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# Эўропа пачынае спачатку

Усе натугі Захаду зарганізаваць супольную форму абароны Заходняй Эўропы перад загрозай бальшавіцкай агрэсіі правaліліся ў трагічны дзень 30 жнівеня сёлета, калі французскае Нацыянальнае Сабраньне адкінула праект Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, не дапусьціўшы навет да галасаваньня над ягонай ратыфікацыяй. Заходняя прэса піша, што гэтай пастановай францускага парляманту былі змарнаваныя для справы супольнае абароны і заходняэўрапэйскага задзіночаньня цэлыя два гады, бо якраз перад двума гадамі быў падпісаны ў Парыжы дагавор аб эўрапэйскай арміі, даўно ратыфікаваны яе эўрапэйскімі партнэрамі за выключэньнем Францыі й Італіі. Мы скажам больш. Былі змарнаваныя ня два, але чатыры гады, бо сам праект Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці зрадзіўся перад чатырма гадамі ў Францыі, аўтарам якога быў тагачасны францускі міністар абароны Плевэн («плян Плевэна»). Ад таго часу Захад іншых формаў і канцэпцыяў заходняэўрапэйскай абароны з удзелам Заходняй Нямеччыны ня шукае, але дыскутуе й канкрэтызуе толькі плян, высунуты Плевэнам.

Такім чынам трэба гаварыць не аб двух, але аб чатырох змарнаваных гадох, што ў сяньняшніх бліскавічных тэмпах разьвіцьця падзеяў зьяўляецца пэрыядам важным і доўгім. На працягу гэтага часу адбылася на Захадзе нязьлічоная колькасьць бясплодных нарадаў, дыскусіяў і канфэрэнцыяў, вынікі якіх былі або мінімальныя або ніякія. А на працягу гэтых чатырох год Саветы прысьпешанымі тэмпамі зброіліся, камунізм, ці шляхам палітычных і прапагандавых камбінацыяў, ці то актамі адкрытай збройнай агрэсіі, зрабіў вялікія поступы наперад і ягоная загроза для вольнага сьвету ў некалькі разоў павялічылася. У той час, калі Саветы пад нявіннай формай народнай паліцыі шырака разбудавалі збройныя сілы акупаванай і ссаветызаванай імі Усходняй Нямеччыны, уключна з панцырамі, лётніцтвам і ваенным флётам, Заходняя Нямеччына ў галіне абароны творыць і дагэтуль пустое месца, бо Захад увесь гэты час толькі шукаў праўных асноваў дзеля ўключэньня яе ў сыстэму заходняэўрапэйскай абароны. Прызнаны за найлепшы плян для рэмілітарызацыі Нямеччыны, якім мела быць заходняэўрапэйская армія, і горача падтрымліваны Амэрыкай, як адзіны і найлепшы, быў Францыяй канчальна адкінуты, ня гледзячы на тое, што якраз Францыя плян гэты стварыла. Перад Заходняй Эўропай пасьля 30 жнівеня паўстала пустата, расчараваньне і дэзарыентацыя. Пасьля чатырох лёгкадумна змарнаваных год усё трэба пачынаць спачатку, пры гэтым трэба дзеіць шыбка і станоўча, бо інакш вынікі катастрофы, — а правалу эўрапэйскай арміі інакш, як катастрофай назваць нельга — могуць быць вельмі грозныя.

Але ня толькі ў гэтым хаваецца ўвесь трагізм сытуацыі. Іншыя аспэкты гэтае справы зьяўляюцца куды больш трагічнымі, чымся факт змарнаваньня цэлых чатырох год. І ня ў тым хаваецца трагэдыя, што правал Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці зьяўляецца бліскучым трыумфам Масквы. Кажная няўдача Захаду зьяўляецца для Масквы трыумфам і сукцэсам. Пануры трагізм заіснаваўшай сытуацыі ляжыць у тым, што правал заходніх абаронных плянаў вырэжысаравала, падгатавала і правяла Масква. Савецкая дыплямацыя ўмела выкарыстаць усе слабыя пункты Захаду, патрапіла умела зайграць на нацыянальнай амбіцыі Французаў, пусьціла ў рух свае пятыя калёны, што мэту сваю дасягнула без асаблівых цяжкасьцяў.

Лёгкая перамога гітлераўскай Нямеччыны над Заходняй Эўропай падчас апошняй вайны была вынікам хвальшывай палітыкі заходніх дзяржаваў. Іхныя нацыянальныя амбіцыі й разыходжаньні часта ў дробных справах былі на перашкодзе патрэбнай у той час кансалідацыі і каардынацыі абаронных сілаў. Зматар'ялізаваньне Захаду і думаньне катэгорыямі бягучага дня былі прычынай, што краіны Заходняй Эўропы ня ўзброіваліся і да вайны ня былі прыгатаваныя. Калі-ж небясьпека зрабілася няўхільнай, Захад не патрапіў выявіць сільнае волі й аказаць станоўчасьці, але пайшоў па лініі капітулянцтва, кульмінацыйным пунктам якога быў Мюнхэн. Вынікі такой палітыкі Захаду, як ведама, былі неаблічальныя ў трагізьме.

Аднак зь лекцыі апошняй вайны Заходняя Эўропа не патрапіла зрабіць ніякіх вывадаў. Сяньняшняя сытуацыя вельмі моцна прыпамінае сытуацыю з пэрыяду Мюнхэну. Розьніца можа быць толькі тая, што небясьпека, якая зарысавалася на гарызоньце, сяньня большая, а ейныя вынікі могуць быць яшчэ страшнейшыя.

Гэтак Масква патрапіла зьнішчыць вынікі чатырохгодніх абаронных натугаў Заходняй Эўропы, пры гэтым зьнішчыць рукамі ейнага партнэра — Францыі. Галасаваньне ў францускім парляманьце 30 жнівеня было толькі лёгічным вынікам усяго таго, што Крэмль прадпрыймаў раней. Аднак галасаваньне гэтае ёсьць і вельмі вымоўнае.

Прыгледзімся да лічбаў. Праціўнікаў дагавору аб Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці было 319, прыхільнікаў 264. Калі ад гэных 319 адняць 99 галасоў камуністых, астанецца 220, г. зн. мяншыня. Значыцца на выніках галасаваньня заважылі камуністычныя галасы, інакш кажучы Масква, бо ніякі сакрэт, што камуністычныя дэпутаты ў Францускім Нацыянальным Сабраньні — гэта ўжо не Французы, а звычайныя агенты Масквы. У прыпрэжку зь імі пайшлі цесныя нацыяналістыя на чале з дэголістымі. Зблякаваліся між сабой найбольш скрайнія антыдэмакратычныя кірункі і знайшлі супольную плятформу. Затое дэмакратычныя элемэнты францускага парляманту, хоць і былі пераможаныя ў галасаваньні дзякуючы камуністым, ці інакш Маскве, аказаліся ў бальшыні. З гэтага можна зрабіць вывад, што хаця канцэпцыя задзіночанай Эўропы і ейных супольных абаронных імкненьняў была Францыяй адкінутая, то воля да абароны і ідэя задзіночанага супольнага дзеяньня мае ў Францыі пад сабою яшчэ грунт. Гэта сьветчыць, што яшчэ ня ўсё страчанае, што палажэньне, хоць і зь

(Заканчэньне на 3-ай балоне)

# Нацыя загрожаная

Усе нялюдзкія бальшавіцкія практыкі ў дачыненьні да беларускага народу, прыктыкі, праводжаныя ня толькі ў рамах нацыянальнай палітыкі Крэмля, але і ўва ўсіх іншых галінах савецкае сыстэмы, мелі і маюць перад сабой адну канкрэтную мэту: зьнішчэньне беларускага народу, як нацыі, для савецкай сыстэмы непакорнай, а ў выпадку вайны і моцна ненадзейнай, нацыі, якая ня хоча растапіцца ў «вадзіным рускім моры», але імкнецца жыць собскім незалежным жыцьцём. Нас мала тут цікавіць чыста акадэмічнае пытаньне, над якім часта ломяць галовы заходнія інтэлектуалістыя: ці русыфікацыя й адмаўленьне нацыянальных правоў нерасейскіх народаў у СССР зьяўляецца мэтай самой у сабе, ці толькі сяродкам, што служыць для дасягненьня іншае мэты. Для нас факт астаецца фактам, што Масква ўсімі сіламі намагаецца нас зьнішчыць, як апрычоны народ, зьнішчыць нашую нацыянальную культуру, выкараніць з народнае душы ўсе патрыятычныя пачуцьці, замест свайго роднага й найдаражэйшага падставіць народу нашаму культурныя здабыткі ягонага «старэйшага брата», расейскага народу, а ягоныя собскія й прыродныя нацыянальныя вартасьці панізіць і аплюгавіць.

Гэтыя практыкі й намеры чырвонае Масквы добра зразумеў беларускі народ і ўсімі магчымымі для яго спосабамі перад імі бараніўся. Бараніўся і абараніўся. Масква бязьлітасна зьнішчала ягоныя нацыянальныя кадры, але на іхнае месца прыходзілі другія. Масква штучна спыняла натуральны развой беларускага нацыянальнага жыцьця, але народныя масы замыкаліся ў сабе і ня прыймалі падсоўванай ім культуры «старэйшага брата».

Можна было зьнішчыць і далей нішчыць вядучыя нацыянальныя кадры, можна было забараніць разьвіцьцё нацыянальнае культуры, можна было праводзіць шалёнымі тэмпамі прымусовую русыфікацыю. Але нельга было й гэтымі драконаўскімі мерамі зьнішчыць нацыянальнай патэнцыі беларускага народу. Нельга было зьнішчыць самога народу, як нацыі.

Але апошнім часам бальшавікі хапіліся за новы спосаб вынішчэньня нерасейскіх народаў, спосаб, на першы пагляд больш нявінны і навет «гуманны», затое ў сваім задуме яшчэ больш пэрфідны, які ў сваіх выніках можа для нас стацца куды больш грозным і небясьпечным.

Як ведама, у пачатку сёлетняга году Саветы абвесьцілі новую праграму для падняцьця зруйнаванай сельскагаспадарскай прадукцыі шляхам асваеньня «цалінных» «залежных», а мы скажам — пустынных і бязьлюдных — земляў Казахстану і Сібіру. Для ажыцьцяўленьня гэтае гігантычнае праграмы яны павялі акцыю «дабравольнага» перасяленьня насельніцтва ў гэтыя пустынныя раёны, галоўным чынам зь нерасейскіх саюзных рэспублікаў, у першую чаргу зь Беларусі і Ўкраіны, часткава таксама з Прыбалтыкі. Мы ўжо ня раз алярмавалі, што акцыя гэтых перасяленьняў прыняла ўжо масавыя разьмеры ў Беларусі і апустошыла беларускае насельніцтва, на месца якога, зразумела, насаджваецца насельніцтва расейскае. Але, як даведваемся, усё тое, што ў гэтым кірунку робіцца сяньня, гэта яшчэ толькі пачатак, што за гэтым пачаткам наступныя гады маюць прынесьці яшчэ больш масавае і плянавае перасяленьне Беларусаў у Сібір і Казахстан.

«Праўда» ў № 246 за 3. 9. 1954 г. зьмясьціла артыкул «У раёны асваеньня цалінных і залежных земляў». Аўтарам артыкулу зьяўляецца не абы хто, а толькі начальнік Галоўнага перасяленскага ўпраўленьня Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР С. Чэрэмушкін. Значыцца, усе інфармацыі, якія ён падае, зьяўляюцца найбольш аўтарытэтнымі і бясспрэчнымі. Вось што ён, між іншым, піша:

«У бліжэйшыя гады ў сувязі з асваеньнем новых земляў на дабравольных пачатках будзе ў шырокіх маштабах ажыцьцяўляцца перасяленьне ў усходнія акругі з цэнтральных і **заходніх** (падчыркнута намі — Рэд.) раёнаў краіны, якія маюць **лішкі работніцкіх рук»** (падчыркнута намі — Рэд.).

Значыцца, сяньняшняя перасяленская акцыя зьяўляецца толькі ўступам да перасяленьня «ў шырокіх маштабах», якое будзе праводзіцца «ў бліжэйшыя гады». Ня можа быць найменшага сумлеву, што перасяленьне гэтае «ў шырокіх маштабах» мае на мэце разагнаць беларускае насельніцтва па бязьмежных прасторах Сібіру й Казахстану, растапіць яго сярод іншых народаў, галоўна Расейцаў, і зрусыфікаваць. У артыкуле гаворыцца, што перасяленьне будзе праводзіцца «на дабравольных пачатках». Але-ж ведама, што ў Савецкім Саюзе ўсё робіцца толькі «дабравольна». Навет зьненавіджаная калектывізацыя, якая каштавала народу мільёны галодных сьмерцяў і ссылак, праводзілася, як ведама, таксама толькі «дабравольна».

У артыкуле «Праўды» гаворыцца, што з тых цэнтральных і заходніх раёнаў СССР будзе праводзіцца перасяленьне, якія маюць «лішкі работніцкіх рук». Ці хто з нас можа паверыць, што Бела-

(Заканчэньне на 2-ай балоне)

# Абаронны Пакт Паудзенна-Усходняй Азіі

Пасьля таго, калі ў Эўропе Захад пацярпеў балючую няўдачу, якой было пахаваньне францускім парлямантам Эўрапэйскай Абароннай Супольнасьці, на Далёкім Усходзе ён дасягнуў значных сукцэсаў. Імі зьяўляецца падпісаньне 8 верасьня сёлета ў сталіцы Філіпінаў Манілі дагавору аб стварэньні Абароннага Пакту Паўдзённа-ўсходняй Азіі васьмю заходнімі і азіяцкімі дзяржавамі: Вялікабрытаніяй, Задзіночанымі Штатамі **Амэрыкі, Францыяй,** Аўстраліяй, Новазэляндыяй, Пакістанам, Тайляндам, Сыямым і Філіпінамі. Пакт быў падпісаны ў выніку трохдзённай канфэрэнцыі ўспомненых дзяржаваў. Такое хуткае ўзгадненьне паглядаў, рэдка спатыканае апошнім часам у міжнародным жыцьці, тлумачыцца тым, што ў азіяцкай канфэрэнцыі прынялі ўдзел толькі дзяржавы наважаныя й здэцыдаваныя пры адсутнасьці краінаў, якія, як прыкладам Індыя, хістаюцца між Захадам і Усходам, і ня вызначылі яшчэ сваей моцнай пазыцыі ў халоднай вайне.

Ініцыятыва стварэньня Паўдзённа-ўсходняга Абароннага Пакту выйшла ад Амэрыкі, якая ўважала такі крок за неабходны пасьля таго, калі разьвеяліся ўсякія надзеі на разьвязаньне дыплямантычным шляхам справы Карэі й Індакітаю і калі сталася ясным, што непасрэднай мэтай камуністых зьяўляецца апанаваньне рознымі спосабамі, ня выключаючы і адкрытай агрэсіі, усяго азіяцкага кантынэнту. Такая думка зактуалізавалася ў Амэрыцы яшчэ перад Жэнэўскай канфэрэнцыяй, а падчас ейнага трываньня былі ў Лёндане праведзеныя ў гэтай справе нарады генэральных штабаў ЗША, Вялікабрытаніі й Францыі. Да склінаньня канфэрэнцыі ў той час, аднак, ня прыйшло, бо Вялікабрытанія й Францыя баяліся, каб не пашкодзіць гэтым Жэнэўскай канфэрэнцыі.

Амэрыка заплянавала Абаронны Пакт Паўдзённа-ўсходняй Азіі на ўзор Атлянтычнага Пакту ў Эўропе. Пры гэтым Пэнтагон намагаўся прыцягнуць да пакту як найбольшую колькасьць азіяцкіх дзяржаваў. Тымчасам, у выніку нэўтралістычных тэндэнцыяў многіх азіяцкіх дзяржаваў, ані аднаго ані другога жаданьня Амэрыкі поўнасьцю зьдзейсьніць не ўдалося. Паўдзённа-ўсходні Азіяцкі Абаронны Пакт стаўся канструкцыяй больш слабкай, чымся Атлянтычны Пакт, і ўключае ў сябе сяньня толькі тры азіяцкія дзяржавы.

Пакт падпісаны на неабмежаваны час. Але наперакор Атлянтычнаму Пакту, які ў выпадку агрэсіі мае дзеіць аўтаматычна, Азіяцкі Пакт прадбачыць, што паасобныя дзяржавы-сябры пакту ў падобным выпадку будуць паступаць згодна з пастановамі сваіх канстытуантаў. Ясна, што такая кляўзуля значна аслабляе сілу гэтага пакту, а ў выпадку агрэсіі можа зьменшыць ягоную эфэктыўнасьць.

Затое важнай пастановай пакту ёсьць тое, што ягоная дзейнасьць расьцягваецца на тры індакітайскія дзяржавы — Ляёс, Камбоджу і паўдзённы Ветнам, якія ў сілу Жэнэўскай пастановы аб перамір'і ў Індакітаі былі пастаўленыя ў стан нэўтральны. Вымушаная на гэтых антыкамуністычных краінах нэўтральнасьць раней ці пазьней піхнула-б іх у вабоймы камунізму. Таму расьцягненьне на іхныя тэрыторыі дзейнасьці пакту, пры адпаведнай ягонай сіле, можа выратаваць незалежнасьць гэтых краінаў. Гаворым можа, але ня мусіць, бо ўсё гэта будзе залежыць, ад рэальнай сілы пакту і станоўчасьці ягоных партнэраў.

Падчас канфэрэнцыі была апрацаваная прэзыдэнтам Філіпінаў «Пацыфічная Карта», якая праклямуе права народаў на самавызначэньне і гарантуе усім народам, на якія пастановы «Пацыфічнай Карты» расьцягваюцца, свабоду ад усякіх формаў каляніялізму, асабліва на прасторы Пацыфічнага акіяну і паўдзённа-ўсходняй Азіі. Паводля «Карты», усе гэтыя народы будуць супрацiўляцца кажнай форме агрэсіі, якая можа мець на мэце накінуць ім таталітарную форму ўраду й быць накіраванай дзеля іхнага паняволеньня.

Тэрыторыяй дзейнасьці Пакту на падставе дагавору аб ім быў вызначаны «агульны прастор Паўдзённа-ўсходняй Азіі, уключна з усей тэрыторыяй азіяцкіх партнэраў Пакту, і агульны прастор паўдзённа-заходняга Пацыфіку, за выключэньнем пацыфічнага прастору на поўнач 21 паралелі і 30 мінутаў паўночнай шырыні». Дзякуючы гэтаму тэрытарыяльнаму абмежаваньню, Пакт абыймае прастор Філіпінаў, але не абыймае кітайскага нацыянальнага востраву Фармозы. Маляя і брытанскі Борнэо, як і ўсходні і заходні Пакістан яшчэ належаць да тэрыторыі дзейнасьці Пакту. Трэба думаць, што выключэньне Фармозы, сяньня найбольш запальнага пункту на гэтым адрэзку, із зоны дзейнасьці Пакту, сталася на дамаганьне Вялікабрытаніі, якая яшчэ верыць у магчымасьць добрых дачыненьняў з Пэкінам.

У прэамбулі дагавору пададзеныя галоўныя мэты Пакту і папярэджаныя ўсе эвэнтуальныя агрэсары, што ўсе ўдзельнікі Пакту будуць выступаць супольна супраць агрэсара, які нападзе на аднаго зь іх.

Падпісаны ў Манілі дагавор аб Пакце падчырквае ня толькі мілітарна-абаронныя, ня толькі палітычныя, але й гаспадарскія мамэнты. Ён ставіць сабе за мэту спрычыніцца да эканамічнага разьвіцьця азіяцкіх партнэраў Пакту і падняць да адпаведнае ўзроўні іхны жыцьцёвы стандарт.

Як мы ўжо адцемілі, жаданьнем Амэрыкі было прыцягнуць да Абароннага Пакту Паўдзённа-ўсходняй Азіі як найбольшую колькасьць азіяцкіх дзяржаваў. У Амэрыцы дыскутавалася магчымасьць абняцьця Пактам з аднаго боку такіх антыкамуністычных дзяржаваў, як паўдзённая Карэя, Фармоза, Японія, Ляёс, Камбоджа і Паўдзённы Ветнам, а з другога — «дзяржаваў блёку Калёмбо» (тых, якія бралі ўдзел у канфэрэнцыі ў сталіцы Цэйлёну Калёмбо), як Індыя, Інданэзія, Пакістан, Цэйлён і Бірма.

Тут варта адцеміць, што перад Жэнэўскай канфэрэнцыяй выказаліся пазытыўна за ўдзелам у канфэрэнцыі Індыя, Інданэзія і Бірма, якія думалі сваім удзелам гарантаваць, што камуністычная агрэсія далей не пашырыцца. Пасьля-ж Жэнэўскай канфэрэнцыі «дзяржавы блёку Калёмбо», за выключэньнем Пакістану, ад удзелу ў канфэрэнцыі адмовіліся, а Індыя заняла да ае выразна непрыхільнае становішча. Гэтак індыйскі ворган у ангельскай мове «Гіндустан Таймс», пісаў, што міністар Даллес імкнуўся накінуць »абаронны плашч« на Камбоджу, Ляёс і Паўдзённы Ветнам, хаця ніводная з гэтых дзяржаваў яго пра гэта не прасіла. «Калі такім спосабам будзе вымушвацца прыняцьце помачы, тады майстры з Манілі не ўспакояцца, пакуль гэтыя тры дзяржавы із собскай волі або супраць яе ня будуць уцягнутыя ў сыстэму Паўдзённа-ўсходняга Азіяцкага Пакту. Але такая эвэнтуальнасьць разбурыла-б пагадненьне ў справе Індакітаю» — піша індыйская газэта.

Індакітайскія дзяржавы Ляёс, Камбоджа і Паўдзённы Ветнам не маглі быць прыцягнутыя да Пакту ў сілу накінутай ім дагаворам аб перамір'і нэўтралізацыі. Што-ж датычыцца Паўдзённай Карэі і Фармозы, дык на гэтай справе, відаць, заважыла пазыцыя Вялікабрытаніі, якая баіцца дражніць Мао-Тсэ-Тунга. Гэтак малы й вельмі абмежаваны ўдзел у Пакце азіяцкіх дзяржаваў зьяўляецца найслабейшым ягоным месцам.

На сяньня Абаронны Пакт Паўдзённа-ўсходняй Азіі яшчэ зьяўляецца толькі юрыдычнай формай. Ягоная рэальная сіла й палітычная эфэктыўнасьць будзе залежыць ад двух мамэнтаў: 1. ад прызнаньня амэрыканскім Кангрэсам адпаведнай гаспадарскай і мілітарнай помачы; 2. ад прыцягненьня да Пакту большае колькасьці азіяцкіх дзяржаваў. Прыняцьце «Пацыфічнай Карты», у якой гарантуецца права азіяцкім народам на самавызначэньне і адкідаецца палітыка каляніялізму, дае моцную надзею, што Паўдзённа-ўсходні Азіяцкі Абаронны Пакт станецца магутнай сілай, здольнай запыніць далейшую камуністычную агрэсію ў паўдзённа-ўсходнім азіяцкім прасторы.

(—іч)

# Паулюк ТРУС

**(ДА 25-х УГОДКАЎ СЬМЕРЦІ Й 50-х УГОДКАЎ НАРАДЗІНАЎ)**

**29 жніўня** сёлета зыйшло 25 год ад дня сьмерці паэты Паўлюка Труса.

Самыя абставіны, зьвязаныя з гэтай сьмерцяй, як нельга красамоўней могуць ілюстраваць славутыя бальшавіцкія «клопаты аб чалавеку», як яны выглядалі яшчэ 25 год уперад, калі, здавалася, савецкая сыстэма не пасьпела яшчэ дарэшты набрыняць тэй сваёй жахлівай бяздушнасьцяй і бешчалавечнасьцяй, што выявіліся на ўвесь рост пасьля. Кагадзе ўзьнесены на ўзвышша афіцыйнае славы, расхвалены, зацытаваны й зарэкамэндаваны «лепшым паэтам» перад гэным усебеларускім партыйным зьездам найаўтарытэтнейшымі вуснамі самага найвышэйшага патэнтара Беларусі тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б, Паўлюк Трус памёр у поўным занядбаньні, брудзе й смуродзе людзкое звалкі заразнага тыфуснага бараку... І адно па сьмерці, пры спраўджаньні асобы нябожчыка, нейкі, больш начытаны ў газэтах бальнічны служка, прасьлібізаваўшы ў дакумэнтах няхітрае прозьвішча, здаўмеўся: ці ня той гэта Трус, якога кагадзе так уславіў сам сакратар ЦК? І прышпілілі да труны картку: «Пётра Трус» — бо нат імя зь ініцыялу П. не маглі вывесьці добра...

А на пышных паховінах, наладжаных ужо «у выпраўленьня памылкі», прадстаўнік таго самага ЦК суцешыў: «Гэта дарма, што памёр Трус — яго заступяць тысячы новых Трусоў»... У гэтай аблюбаванай бальшавіцкай формуле, зь якою нязьменна выпраўляюцца на той сьвет усе, вартасныя зь іхнага гледзішча сьмяротныя (пачынаючы яшчэ ад самага Леніна) — уся мера бальшавіцкае бяздушнасьці ў дачыненьні да чалавека. Бо-ж для іх чалавек з усімі ягонымі індывідуальнымі ды непаўторнымі здольнасьцямі й якасьцямі — гэта ўсяго толькі звычайны «нумар», запоўненае «працоўнае месца», што лёгка заступаецца калі ня другім гэткім самым «нумарам», дык павялічанаю колькасьцяй іх, для «мабілізацыі» якой і выкарыстоўваецца сама высока-велічная для ўсяго небальшавіцкага чалавецтва праява сьмерці...

Нарэшце, за пяць год па сьмерці паэты, Акадэмія Навукаў БССР выдала (у 1934 г.) «Творы» Паўлюка Труса. Тутака былі рупліва пазьбіраныя ўсе вершаваныя допісы ў сялянскую газэту «Беларуская вёска» (паводля — «каб малака было па вушы — выводзь карову з калатушы») — увесь калішні заработак беднага студэнта — стыпэндыята пэдагагічнага тэхнікуму, ды затое старэнна абмінутае ўсё запраўды глыбака-лірычнае, дзе паэта раскрываў сваю душу, выліваючы тую бязьмежную любасьць да свае Бацькаўшчыны-Беларусі, што заўсёды поўніла ўсю ягоную істоту й змушала гаварыць аб самым сабе:

Аддам усё, чым сэрца плача,
Дастану сэрца й падару,
Бо я людзей яшчэ ня бачыў,
Каб так любілі Беларусь.

Вершу з гэтымі радкамі, як і іншых падобных вершаў, друкаваных сваім часам і ў часапісах і ў паэтавых зборніках («Вершы», 1925, «Ветры буйныя», 1927) — годзе шукаць у гэтым пасьмяротным, «акадэмічным» зборы твораў Труса. Яны не дапушчаныя туды, хоць, здавалася-б, «любити свій край не є злочин», як прагаласіў ведамы сталінскі ляўрэат Павло Тичина. Аднак, як заўсёды, практыка бальшавіцкая зусім адваротная, і любасьць да свае Бацькаўшчыны заўсёды каралася й караецца ў іх як найбольшае злачынства «нацыянал-дэмакратызму», «мясцовага шавінізму», «нац-фашызму», «буржуазнага нацыяналізму» ды іншых зьменных шыльдаў для найгоршага ў іхным уяўленьні сьмяротнага грэху. І калі нельга ўжо было спасьцігнуць за гэта жывога Паўлюка Труса, каб пагнаць яго ў «ссылку» ці лягер разам зь ягонымі сябрамі ў 1930—31, 1933—34, 1936—37 гадох масавых ліквідацыяў усіх, што «так любілі Беларусь» — заставалася вычысьціць-выгнаць у тую-ж ссылку лепшыя. але «злачынна»-нацыянальныя духам радкі й вершы з «акадэмічнага» навет выданьня ягоных твораў... «Скарочаная колькасьць тых твораў паэты, якія пераважна даюць наагул даволі аднастайны матар'ял для ўстанаўленьня яго ідэялёгічных ухілаў і памылак», — гэтак «акадэмічна» апраўдвалася й «афармлялася» ў прадмове тая апэрацыя «ссылкі» твораў недаступнага ўжо для фізычнага сасланьня аўтара. А яшчэ за пару год, з таго-ж выданьня была выразаная ўся ўступная частка зь біяграфічна-крытычным артыкулам пра нябожчыка, вымазаныя ў тэксьце прысьвяты вершаў некаторым паэтавым сябром, што апынуліся ў «варагах народу» (прыкл., на б. 172) — давершаная экзэкуцыя над спадчынаю нябожчыка дзікабарбарскім, у вадным адно «свабодным» краі Саветаў шырака ўжываным спосабам...

Гэтак вытручвалі з паэзіі Труса, якраз тое, чым ён найбольш застаецца й застанецца ў нашай літаратуры — высокую паэтызацыю глыбокае й шчырае любасьці да Бацькаўшчыны. Бо ў нічым іншым, апрача аднаго, не пасьпела паэзія ягоная разгарнуцца ў нешта няштодзённае, векапомнае. Дый, зрэшты, ці так ужо шмат часу — усяго бо 25 год жыцьця — адмерыла яму доля, каб даць разгарнуцца? Праўда, якраз гэтульки сама — тыя-ж 25 год — пражыў усяго на сьвеце й бліскучы мэтэор нашаніўства, Максім Багдановіч. Але Паўлюк Трус, народжаны ў простай сялянскай сям'і (у сяле Нізок на Ігуменшчыне, у 1904 г.) — ня меў гэткіх магчымасьцяў да разьвіцьця, што былі ў сына настаўніка, этнографа й «народніка» Багдановіча. Можна безь перабольшаньня сказаць, што пара ягонага духовага разьвіцьця, цалкам супадаючы з парою ягонага творства, абняла ўсяго пяць год — 1924—1929... Бо толькі трапіўшы ў Менскі Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалада Ігнатоўскага, дастаў ён упяршыню магчымасьць прылажыцца і да жыватворчых крыніцаў культуры наагул і да скарбніцаў літаратуры, сусьветнае й беларускае, упаасобку. Тут-жа, у 1924 г. (з другога курсу Тэхнікуму) пачынае ён і свой пісьменьніцкі шлях. Год студыяў на літаратурна-лінгвістычным аддзеле Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту — апошні год паэтавага жыцьця — быў годам найбольш напружанае працы над убіраньнем у сябе здабыткаў культуры й літаратуры — і ў гэтай напружанасьці дасяганьня й абарвалася тое жыцьцё...

Недацягнутасьць духовага й культурнага разьвіцьця, што гэтак кідаецца ў вочы пры тым раўнаньні Паўлюка Труса да Максіма Багдановіча, спалучаючыся яшчэ й з прыроднай слабасьцяй і хісткасьцяй характару, спрычыніла гую характэрную асаблівасьць жыцьцёвае й літаратурнае асобы Труса, якую крытыка сваім часам была назвала ягонай «падуплыўнасьцяй» — г. зн. лёгкасьць уляганьня розным уплывам. У літаратурна-грамадзкім жыцьці гэта згукнулася ў хістаньнях між гэткімі палярнымі асяродкамі літаратурнага жыцьця, якімі былі тымі часамі «Маладняк» (пасьля БелАПП) і «Узвышша»: два разы нябожчык памыкаўся пакінуць першы для другога (у 1926 і ў 1929 г.) і два разы, нат пад ня вельмі вялікім ціскам, варочаўся назад. Але ў паэтычным творсьцьве «падуплыўнасьць» гэтая прыводзіла аж проста да сыстэматычнага й неперабарлівага фактычнага плягіярызму, ці раз зь вялікім гармідарам вытыканага крытыкаю. І цяпер варта толькі пагартаць навет прасеяныя праз бальшавіцкае «акадэмічнае» сіта «Творы» Труса, каб нарэчыцца і гэтта і гэнам на радкі й цэлыя кавалкі, часта прост, што называецца, жыўцом узядзеныя з твораў тых паэтаў, якіх чытаў і тут-жа паддаваўся іхнаму ўплыву — малады паэта — і Максіма Багдановіча, і Янкі Купалы, і Якуба Коласа, і Тараса Шэўчэнкі (ці не найбольш улюбёнага), і Пушкіна, і Лермантава, і Есеніна, а далей — і Дубоўкі, і Пушчы, і Чарота, ды аж навет Трусавых-жа паэтыцкіх равесьнікаў — Глебкі, Лужаніна, Дарожнага, ня кажучы ўжо пра народную паэзію, нашу і украінскую...

Аднак, бясспрэчна нябудзённыя паэтычныя здольнасьці, і сярод іх асабліва нязвычайная здольнасьць народнасьці выражэньня, папулярнасьці, даходнасьці яго да найшырэйшых народных масаў — ратавалі й доўга яшчэ будуць ратаваць Труса ад сьмерці ягонае паэзіі ў чытацтве — фактычнай сьмерці для кажнага паэты, незалежна ад ягонага фізычнага скону. Рэч у тым, што навет радкі й кавалкі твораў куды выдатнейшых за яго і часам сусьветнае славы паэтаў Трус умеў падаць гэтак, што яны ня толькі даходзілі, але й глыбака захаплялі простага нашага селяніна, што ня меў беспасярэдняга доступу да арыгіналаў тэтых твораў, а нат каб і меў, дык ня мог-бы яшчэ іх як належыцца асвойтаць. У гэтага селяніна-ж Трус, як паэта наагул, карыстаўся нязвычайнай папулярнасьцяй, куды большай ня толькі за папулярнасьць ягоных паэтычных равесьнікаў, але навет і некаторых карыфэяў нашага адраджэнства, і толькі крыху хіба меншай за папулярнасьць ягонага аднасельчаніна Крапівы. Дзякуючы гэтаму такая адмоўная, здавалася-б, навет, забіючая якасьць Трусовае паэзіі, як ейнае пераймальніцтва аж да плягіятарства — абарачалася ў карыснае папулярызатарства, у выніку якога, хоць, праўда, і паасобныя, але затое заўсёды бадай найзырчэйныя блёсткі з твораў сусьветных і нашых клясыкаў, а таксама й высокіх сваёй культурай, і таму менш даступных шырокім масам такіх выдатнейшых майстроў нашага слова, як Максім Багдановіч ці Ўладзімер Дубоўка, дасягалі й прасякалі аж у беларускае сяло, у гушчу нашага сялянства, і хіба доўга яшчэ будуць знаходзіць сабе найпэўнейшы ход туды гэтаю дарогай. Пасьля таго-ж, як бальшавікі паліквідавалі, поўнасьцяй ці часткава, усіх блізу лепшых нашых нацыянальных паэтаў, дапушчаная імі, хай сабе й таксама ў «прыліквідаваным», казаў той, часткава выглядзе паэзія Труса сталася адзінай бадай перадавальніцай спадчыны гэных паэтаў наступным паэтычным пакалень-

(Заканчэньне на 3-ай балоне)

# Нацыя загрожаная

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

русь пры сваей параўнальнай рэдкасьці насельніцтва і пры наяўнасьці паважнай колькасьці таксама «цалінных» і «залеглых» земляў, для асваеньня якіх на адным толькі Палесьсі патрэбна было-б некалькі добрых гадоў працы, мае ўзапраўды гэтыя «лішкі работніцкіх рук»? Гэтае няўдалае абгрунтаваньне запланаванай акцыі гаворыць само за сябе і вымоўна сьветчыць, што Крэмль у сваіх плянах мае зусім іншыя мэты, а не рацыянальнае выкарыстаньне «лішак работніцкіх рук». Бо што гэтых «лішак работніцкіх рук» на Беларусі няма, а наадварот, адчуваецца іх войстры недахоп, сьветчаць бесьперапынныя алярмаваньні беларускай савецкай прэсы й менскага радыя аб хранічных нявыконваньнях у сельскай гаспадарцы БССР, аб спазьненьнях зь сяўбой і ўборкай ураджаю, аб нявыкананьні розных іншых наложаных на калгасьнікаў абавязкаў. З гэтага бясспрэчны вывад, што перасяленае беларускае насельніцтва мусіць быць і напэўна будзе замененае насельніцтвам, прысланым з тых-жа цэнтральных ці іншых раёнаў этнаграфічнае Расеі. Такая каштоўная апэрацыя паказвае, што выкарыстоўваючы добрую нагоду, Крэмль тут рэалізуе зусім іншую, а ня сельскагаспадарскую, палітыку, у дадзеным выпадку палітыку нацыянальную.

Зь іншага абзацу артыкулу «Праўды» даведваемся, у якія акругі СССР будуць перасланыя Беларусы. Там чытаем:

«Выдаецца таксама грашовая дапамога. Пры перасяленьні ў Чыцінскую акругу разьмер дапамогі становіць 1.000 рублёў на галаву сям'і і 300 рублёў на кажнага сябру сям'і; у Краснаярскі й Алтайскі краі Казахскую ССР, Іркуцкую, Кемероўскую, Курганскую, Новасібірскую, Омскую, Туменскую, Чалябінскую, Чкалаўскую і Саратаўскую акругі — ад 800 да 500 рублёў на галаву сям'і і ад 300 да 150 рублёў на кажнага сябру сям'і.

Зірнеце на карту Савецкага Саюзу і пабачыце, што беларускі народ мае быць рассыпаны-разагнаны па вялізарных казахстанскіх стэпах і бязьмежных прасторах сярэдняга й паўдзённага Сібіру, пачынаючы ад ягоных заходніх частак і канчаючы далёкім Забайкальлем (Чыцінская акруга).

Нам могуць сказаць, што хваля перасяленьняў ахоплівае ня толькі Беларусаў, ня толькі іншыя нерасейскія народы, але й цэнтральныя раёны Савецкага Саюзу, г. зн. і этнаграфічную Расею. Гэта праўда. Але пры гэтым трэба мець наўвеце бясспрэчны факт, што Расейцы перасяляюцца або ў межах самой расейскай этнаграфічнай тэрыторыі, або, калі яны перасяляюцца на тэрыторыі народаў нерасейскіх, дык едуць туды, як місіянэры русыфікацыі. Затое «дабравольна» перасяляныя народы нерасейскія незалежна ад таго, ці яны будуць пераселеныя ў этнаграфічную Расею, ці навет у нерасейскі Казахстан, яны ў сілу канечнасьці мусяць стацца аб'ектам шыбкай русыфікацыі. А населеныя на іхнае месца Расейцы маюць прысьпешыць працэс русыфікацыі ў іхнай запраўднай бацькаўшчыне.

Гэтак у вапошнім працэсе перасяленьняў на «асваеньне цалінных і залежных» земляў Масква пасьпяхова рэалізуе сваю нацыянальную палітыку. У параўнаньні з усімі іншымі русыфікацыйнымі актамі розьніца тая, што распачатая сёлета акцыя «дабравольных» перасяленьняў становіць паважную загрозу існаваньню ня толькі малых народаў, як Чэчэна-Інгушаў ці Калмыкоў, якіх можна было выгнаць з роднае зямлі ў вадзін дзень, але таксама й для народаў вялікіх.

**Якуб Колас**

# Сымон Музыка

8)

**ПАЭМА**
**(Працяг)**

Доўга спаў ён, як забіты;
Сонца ўстала на паўдні,
І гудуць над ім сярдзіта
Дзеці лесу, авадні.
— Устань, любы! — шэпча сонца.
Уставай! — шуміць дубок.
— Абудзіся, галубок! —
Кажуць травак валаконцы.
— А-а! — Ён вочы раскрывае,
— Дзе-ж то я! — глядзіць вакол.
Перад ім сьцяна жывая,
Над ім шапка баравая,
Лес — зялёны частакол.
І адразу ясна стала —
Вольны ён, ён ня слуга!
Разышлася і прапала
Гэта сонная смуга!..
Але што-то? здань ці дзіва?
Ці то лес навёў туман?
Мільгатнула штось маўкліва,
Бы ажыў унь той дырван,
Вочкам бліснуў дурасьліва!
Не, ня можа быць, то — зман!
То быў вобраз іскразьзянны,
Момант радасьці, надзей,
Сэрца гымн агнём паранным,
Песьня зорак, сонцавей.
Зьнікла здань — так сон зьнікае,
Але водгульле яе
У вачох яшчэ бліскае
І спакою не дае.
Ды якая-ж то праява?
Сон няўспомнены ці яў?
Ці русалчына забава?
Ці лясун пажартаваў?
І задумаўся хлапчына.
«Сон такі прысьніў, знаць я».
Над ім гэтая хвіліна
Вее чарамі жыцьця.
— Э! — махнуў Сымон рукою,
Каб ход іншы думкам даць: —
Ня мне з доляю такою
Аб ёй марыць і гадаць!
Сеў і з клумка ён вымае
Рыбу, хлеб кладзе на дол;
Няхай Шлёма прабачае:
Шабасовы гэта стол!
Будзе сьнеданьне, бы ў пана,
На пахучым мурагу...
Што за цуд? з таго дырвану
Хтось азваў: — Сымон! а-гу! —
Ён ускочыў, азірнуўся,
Галавой абвёў вакруг;
Бачыць — куст узварухнуўся,
І адтуль, бы сьветлы дух,
Тварык мілы выглядае,
Здаваленьне, сьмех на ім,
Шчасьце-радасьць маладая
Зьзяе сонцам веснавым.
— Ганна! Родненькая Ганя! —
Крок наперад ён ступіў,
Так зьдзівіўся! і ў тым стане
Рукі сьмешна апусьціў.
— Ай, Сымон! які дзіўны ты! —
Ганна сьмехам залілася.
Сьмех, бы зорамі спавіты,
І галоўка самавіта
З траўкі-зелені ўзьнялася.
І бліскаюць яе вочкі,
Як у жыце васількі;
Голас — срэбраны званочак,
Шчочкі — макавы лісткі.
— Дзе спаткаліся, Сымонка!
Як-жа ты папаў сюды?
А як зыгнуў ад нас гонка —
Помніш тую ноч... тады?
Ганна борзда гаварыла,
Распытоўвала сябра,
Нават трошкі пажурыла,
Што іх выракся двара.
— Я зьбірала тут суніцы,
Зірк — аж бачу, нехта сьпіць!
Я спужалася, дурніца:
Злодзей, думаю, ляжыць!
Я ўжо бегчы прэч хацела,
Ды дай, думаю, зірну
На «разбойніцкае цела».
Крок ступаю я нясьмела,
Толькі ціхенька гарну,
Як зірнула-ж — і пазнала!
І так шкода цябе стала —
Не пасьмела я будзіць,
І гадзіны дзьве чакала —
«Няхай, думаю, пасьпіць».
Ці здароў-жа? як жывецца?
Скуль ідзеш? куды? зачым?
Сядзьма тут! — Яна сьмяецца
І садзіцца радам зь ім.
І так добра стала ў лесе!
Ён бярэ яе руку,
А зязюлька на суку
У жывой зялёнай стрэсе
Ім варожыць штось — ку-ку!
Ён глядзіць дзяўчынцы ў вочы,
Ён маліцца ёй гатоў,
Ёй сказаць так многа хоча,
Ды ня знойдзе толькі слоў –
Аж той дрозд зь яго рагоча!

Сымон

Ах, Ганулька, як я рады!
І вось, Ганя, што дзіўно:
Мяне гнала штось з прысады
І шаптала мне адно —
«Ідзі ў лес, у лес зайдзі!
Адпачынь там пасядзі!»
І так вышла ўсё да ладу!

Ганна

Ты-ж адкуль ідзеш, Сымонка?

Сымон

Я ў карчме служыў, ды ўцёк.
Ох, карчмар мне так дапёк —
Ну, хоць кідайся ў палонку!

Ганна

Бедны! бедны! А ты вырас,
Ну, зусім дзяцюк другі,
І няма тае смугі...
А ў вачох той самы выраз —
Сьлед нязбыўнае тугі...
А скажы: ты помніў нас?
І мяне ці ўспомніў з раз?

Сымон

Ня было тае часіны,
Таго вечара і дня,
Каб і ты й твая радня
Ня прыйшлі мне на ўспаміны.
Я ляжу адзін, бывала,
Ноч зацятая, жуда,
І сьмяртэльная нуда
Кіпці выпусьціць і джала.
Але ўспомню аб табе я —
Чымся добранькім павее,
Забываецца карчма;
Зноў абудзіцца надзея,
Што ў жыцьці ня вечна цьма.

Ганна

Дык ты помніў, што ёсьць Ганна
Дзесь на хутары ў глушы?

Сымон

Ты была ў маей душы,
Заўжды міла і жаданна.

Ганна

Ты, здаецца, за сьняданьне
Думаў сесьці? Сьнедай, дружа!
Чаго тут сьціскацца дужа?
Абы меў на то жаданьне!
А то хочаш: будзем разам
Мы спраўляць маёўку тут?

Сымон

Я скажу, як Шлёма: «гут!»

Ганна

А мой полудзень пад вязам —
Баль устроім, як паны!
Там з суніцамі збаночак.
Сыру смачнага кусочак
І грачанікі-бліны.

Для старых эмігрантаў

# Беларусь на конадні першае сьветнае вайны

(Працяг)

**Абракліся жыць для свайго народу і ўміраць за яго**

У 1905 годзе групка інтэлігентных Беларусаў пастанавіла пасьвяціць усё сваё жыцьцё для адраджэньня свайго народу, зрабіць гэтую справу справаю свайго жыцьця й сьмерці. Былі гэта найперш браты Іван і Антон Луцкевічы. Паходзілі зь Меншчыны. Іван скончыў археолёгічны інстытут, ён знаўся на старавечных дарагіх рэчах: абразох, скульптуры, кнігах, розных прыборах дыванох і іншых памятках старыны. Ён пачаў іх купляць; калі гэта былі рэчы чужыя, ён іх прадаваў із заработкам, беларускія пэкідаў, каб зь іх стварыць беларускі музэй. Апрача таго, з такога гандлю заработак ішоў на беларускую справу. Антон быў студэнтам хіміі. Аддаўшыся ўвесь беларускай справе, ён ня мог прадаўжаць навукі. Антон стаўся вельмі добрым і плодным публіцыстым, значыцца мог часта пісаць добрыя артыкулы да газэтаў. Была Алёіза Пашкевічанка зь Лідчыны. Яна скончыла ўнівэрсытэт і пісала вершы пад мянушкаю «Цётка». Адлі быў вучыцель Язэп Лёсік з-пад Стоўпцаў, работнік менскі Аляксандра Прушынскі і інтэлігент з пад Вільні Бурбіс, Станулевіч і некаторыя іншыя. Яны былі рэвалюцыянеры, нелегальна друкавалі й пашыралі заклікі, у каторых даводзілі патрэбу нацыянальнага адраджэньня, дамагаліся; каб Беларусь сталася аўтаномнай, значыцца, каб не Расейцы, але самі Беларусы гаспадарылі й кіравалі. Яны, колькі мелі змогі, стараліся таксама арганізаваць сялян і работнікаў. Бурбіс, прыкладам, арганізаваў сялян у Мэйшагольскай воласьці (км. 30 ад Вільні), каторыя перанялі там уладу. Жартам звалі тады гэтую воласьць мэйшагольскай рэспублікаю. Калі так дзеялі, дык да іх прылучаліся іншыя.

Але расейская паліцыя іх перасьледавала. Прушынскі быў злоўлены за арганізаваньне менскіх работнікаў, засуджаны на катаргу з тым, што па адбыцці яе мусіў застацца ў Сібіры як палітычны засланец. Язэп Лёсік за арганізаваньне беларускага вучыцельскага зьвязу быў таксама засуджаны на колькі год турмы і засланьне да Сібіру. Ягоны сваяк, вучыцель Кастанцін Міцкевіч (Якуб Колас), за тое самае быў засуджаны на 4 гады турмы, каторыя адседзіў у Менску. На двухгадовую турму засуджаны быў Станулевіч. Іншыя мусілі хавацца ад паліцыі, часта мяняць гасподы, а то й абходзіцца без гасподы, нярэдка даводзілася спаць на сходах. Ад гэтага Іван Луцкевіч захвараў на сухоты і пасьлей без пары памёр. Захварэла на сухоты й Пашкевічанка. Каб зьмяніць прозьвішча і зацерці за сабою сьляды, яна выйшла замуж за Лятувіса, Кейрыса. Але й тады ня была зусім бясьпечнай. У 1914 г. мне здарылася зь ёй ехаць да Менску. Ідучы вуліцаю, яна пабачыла агента расейскай тайнай паліцыі, спалохалася й старалася як мага барзьдзей схавацца.

Спакайнейшую, бо звычайна культурна-прапагандную работу вялі старшы пісьменьнік Антон Лявіцкі і Б. Эпімах-Шыпіла, дырэктар бібліятэкі Пецярбурскага ўнівэрсытэту ды прафэсар грэцкае й лацінскае мовы ў Акадэміі. Лявіцкі паходзіў ні то зь Меншчыны, ні то із сумежнай ізь Менскім паветам мясцовасьці Вялейскага павету. Эпімах-Шыпіла паходзіў із Полаччыны.

Дзейльнасьці ўсёй менаванай групы пашчасьціла, што ў 1905 г. царскі ўрад, настрашаны рэвалюцыяй, пайшоў на некаторыя ўступкі таксама нерасейскім народам, і Беларусам дазволена было друкаваць пабеларуску. Тады пачалі выдаваць у Вільні газэту «Наша Доля». Выйшла яе на пачатку 1906 г. 7 нумароў, з каторых пяць расейская цэнзура сканфіскавала, а самую газэту расейская адміністрацыя зачыніла.

Тады пачалі выдаваць «Нашую Ніву». Навучаныя горкім дазнаньнем, пісалі ў ёй спакайней і дзеля таго, хоць яе нярэдка канфіскавалі, яна пратрывала да прыходу Немцаў у першую сьветную вайну, увосень 1915 г. Ад «Нашае Нівы» і цэлая пара беларускага нацыянальнага адраджэньня ад 1905 г. да першае сьветнае вайны завецца нашаніўскай парою. «Наша Ніва» выходзіла кірыліцаю й лацініцаю, бо вялікая часьць Беларусаў-католікаў ня знала кірыліцы.

Неўзабаве пачаў выходзіць ралейна-гаспадарскі часапіс «Саха». Рэдактарам яго спачатку быў Антон Лявіцкі. Па якімсь часе сьвядомых ксяндзоў Беларусі на чале з ксяндзом Будзькам пачалі выдаваць беларускі каталіцкі часапіс «Беларус». «Наша Ніва» й «Саха» рэдагаваліся вельмі добра. Гэтага нельга сказаць пра «Беларуса», дарма што ня толькі ўжо была група сьвядомых ксяндзоў Беларусаў, але некаторыя зь іх былі адданыя беларускай справе ўсёй душою. Як на прыклад, магу ўказаць на кс. Астрамовіча, паходзячага із сяла Навасады Гальшанскае воласьці Ашмянскага павету. Але ніводзін із ксяндзоў сьвядомых Беларусаў ня мог рэдагаваць «Беларуса», бо ня жыў у большым беларускім месьце. Выбар іх паў за рэдактара на няпрыгатаванага да гэтае работы Баляслава Пачопку, Беларуса з пад Вільні. Крыху пасьлей пачаў выходзіць у Менску часапіс для моладзежы «Лучынка». Рэдагавала яго Цётка-Пашкевічанка.

Да першых ходаньнікаў за долю свайго народу прылучаліся ўсё болей і болей іншых — чыста адданых беларускай справе і болей-меней адданых. Рух ужо быў забясьпечаны. Запыніць яго нельга было ні ў якім прыпадку. Калі-б навет першыя ягоныя пачынальнікі адышлі, дык не адышлі-б новыя, што пасьлей да яго прылучыліся. Але пачынальнікі ня думалі адыходзіць. Дык рух разьвіваўся.

Адзначу толькі некаторыя цэнтры і галаўнейшых у іх дзеячоў. Найважнейшы цэнтр быў у Вільні. Тут, апрача вышменаваных Луцкевічаў і іншых, працавалі Вячэслаў Ластоўскі, Аляксандра Уласаў, Адварды Будзька, браты Родзевічы, некаторыя вучаньнікі хімічна-тэхнічнае сярэдняе школы. У Вільні-ж, апрача прэсы, закладаецца выдавецтва кніжак. Ёсьць тут і музычна-драматычны гурток, каторы ладзе прадстаўленьні. Ігнат Буйніцкі, родам ізь Віцебшчыны, арганізуе разьездны тэатр. Паўстаець цэнтр у Пяцярбурзе. Душою яго ёсьць вышменаваны праф. Б. Эпімах-Шыпіла і ягоны брат, высокі ўраднік (чыноўнік). Апрача таго, тут трэба адцеміць др. Ярэміча і праф. В. Іваноўскага. Гэты адзначыўся як добры арганізатар. (Пасьлей, пераехаўшы да Вільні, ён быў дырэктарам ралейнага сындыкату; на работу ў ім ён прымаў сьвядомых Беларусаў). У Пецярбурзе быў гурток беларускіх студэнтаў унівэрсытэту і іншых высокіх школаў (Б. Тарашкевіч, Кн. Дуж-Душэўскі, Андрушкевічанка і інш.). Тады-ж у Пецярбурзе закладзена беларускае выдавецкае т-ва «Загляне сонца і ў наша аконца». Ёсьць гурткі беларускіх студэнтаў пры іншых высокіх школах — пры маскоўскім і кіеўскім унівэрсытэтах, пры ралейна-гаспадарскай акадэміі ў Пулавах (Аркадзь Смоліч і інш.). Паўстаець беларуская арганізацыя ў Варшаве сярод сяброў беларускае калёніі тамака (Р. Зямкевіч, Гапановіч, Лявон Грымак-Бабровіч і іншыя). У самой Беларусі ёсьць актыўнае беларускае таварыства ў Горадні (арганізуе яго кс. Грынкевіч), скуль пасьлей выходзе сьцяг беларускіх дзеячоў. Таксама ёсьць беларускія гурткі пры сярэдніх школах, апрача Вільні, ведамыя важнейшыя ў Менску і асабліва ў гаспадарскай сярэдняй школе ў Горы-Горках. Ёсьць таксама беларускія арганізацыі ў духоўных сэмінарыях і акадэміях. Беларускія арганізацыі ў школах, з выняткам высокіх, былі патайныя або палуяўныя. Закладаюцца беларускія кнігарні (у Вільні, Менску, Полацку). У Вільні за 10 год Іван Луцкевіч зыбраў Беларускі Музэй — цэлае мільённае багацьце беларускіх памяткаў. «Нашая Ніва» мае чысьленых карэспандэнтаў з розных куткоў Беларусі. **(Заканчэньне ў наступным нумары)**

**Брачыслаў Скарыніч**

# Заднім ходам на выстауку

(ФЭЛЬЕТОН)

Дайце раз стравэстуем расейскага паэту, кажучы:

«Муза, сяньня спэктакль бэнэфісны —
У тэатры нам час пабываць»,

ды заглянем за размаляваны, раззалочаны франтон Усесаюзнай выстаўкі. Столькі аб ёй барабаніла савецкая прапаганда, як аб аграмадным дасягненьні некалькіх пяцігодак калектыўнага кіраўніцтва й іншых гібрыдаў. (Да рэчы было-б сказаць, што гэта такое гібрыд. Вось, гэта штось, як-бы мы скрыжавалі сабаку з самакатам і тое, што з гэтага скрыжаваньня выйдзе — быў-бы гібрыд).

Ангельцы — людзі добра выхаваныя. Дык і Этлі зь Бівэнам, будучы ў Маскве, за шмат ня пыталіся ў Маленкава й сударалкі. Навет цікавая, як кажная жанчына, лэйды Саммэрскіл. Справа простая: Ангельцы ня толькі добра выхаваныя, але і інтэлігентныя — ведалі, што ім не адкажуць і не пакажуць. Таму паглядзелі на тое, што ім паказалі, пайменна: бачылі муміі Леніна й Сталіна, высотныя будынкі, паказовае мэтро, музэй у Горках, ну і, рэч зразумелая, Усесаюзную выстаўку. Аднак на выстаўцы здарыўся невялічкі інцыдэнт. Ангельскі журналісты містэр Рыдлі пастанавіў уцячы ад савецкіх ангелаў-старажоў і паглядзець на выстаўку самастойна. Улучыўшы хвіліну, калі ўсе аглядалі нейкага моднага гібрыда, містар Рыдлі вярнуўся ў сэкцыю жывёлы й пабег да слаўнай каровы, якая звалася «Камса». Як яму сказаў перакладчык, гэна Камса, між іншым, дае каля сямі тысяч літраў малака ў год.

Падышоўшы да каровы Ангелец задумаўся, як зь ёй разгаварыцца. На ўсякі выпадак сказаў:

— Гаў ду ю ду?

— Гаў ду ю ду? — цераз жваку й абыякава махаючы хвастом, адказала Камса. Рэшту інтэрвью мы перададзём у зразумелай мове.

— Каму й чаму ты заўдзячваеш свае гэтакія выдатныя паказьнікі? — пытае ангельскі журналісты.

— Нашай роднай партыі й калектыўнаму кіраўніцтву.

— А як гэта сталася?

— Зусім проста. Мяне выбралі на выстаўку. Таму за мной хадзіў цэлы штаб даярак і іншай абслугі. Стайня, дзе я прабывала, была шчытам хлеўнага камфорту, заўфэрмай прыпісаў мне найлепшы кацёл, так, што ела, што хацела й колькі хацела. Навет, калі раз даярка Насьця забылася вечарам памыць мне хвост, на другі дзень яна паехала ў лягер даіць белых мядзьведзяў за сабатаж і зрыў пляну.

— Дык, значыцца, ня ўсе каровы ў Савецкім Саюзе на роўных правох і ня ўсе такія ўдойныя? — ляпнуў ангельскі журналісты.

— Або ты хлябануў тройчы за рубля дваццаць або ня тутэйшы. Ня бачыў вестакі ў вапошнім «Кракадзіле»? Там мая сяброўка добра адказала старшыні калгасу, які ёй закідаў нявыканьне пляну: «Скуль у мяне малако? Ня бачыш, што сама для свайго цяляці пазычыла ў суседкі?» Я ня звычайная калгасная задрыпаная пралетарка, я пратэгаваная таварыша Хрушчова! — кончыла горда Камса і на разьвітаньне маханула ноншалянцка хвастом.

Бачна, што яна ў пасьпеху або церазь нейчы недагляд не прайшла палітвучобы й таму так шчыра адказвала.

— Оў!.. — сказаў зьдзіўлена Ангелец, але карыстаючыся, што яшчэ ніхто ня бачыць, пабег да кнура Чупчыка.

— Каму й чаму ты заўдзячваеш свой посьпех на выстаўцы?

Адказ быў ідэнтычны, як і Камсы. Уканцы Чупчык дадаў:

— Я ня звыклы парсюк! Я экспанат на выстаўку. Заўчора я тут гутарыў з таварышам Маленкавам. Я яму запрапанаваў, каб, падобна як жывёлаў, зрабілі паказ і шчасьлівага чалавека ў Савецкім Саюзе, а тады таварыш Маленкаў быў-бы ідэяльным экспанатам...

Але ў гэтым месцы Чупчыкавых прызнаньняў надбеглі ангелы-старажы містэра Рыдлі, якія, убачыўшы, што ён недзе прапаў, баяліся, каб той зашмат не даведаўся...

**пс**

# Наполеон

(Заканчэньне з 3-яй балоны)

князь Аляксандар Сапега. Дзенным загадам з 5 ліпеня 1812 году Наполеон даручыў Часоваму Ўраду сфармаваць на ягоны кошт (Часовага Ўраду) пяць палкоў пехаты і чатыры палкі коньнікаў, дзеля чаго трэба было набраць 14.000 рэкрутаў.

Часовым Урадам гэты загад быў выкананы і былі зарганізаваныя ў наступных мясцовасьцях наступныя палкі: з рэкрутаў, паступіўшых зь Віленскага, Завялейскага, Вілкамірскага, Браслаўскага, Ашмянскага і Вялейскага паветаў быў зарганізаваны, пад камандваньнем графа Аляксандра Хадкевіча, 18-ты полк пехаты, галоўная гаспода якога месьцілася ў Вільні. З рэкрутаў, набраных у Троцкім, Ковенскім, Упіцкім, Росенскім і Шавельскім паветах быў зарганізаваны, пад камандваньнем графа Канстанціна Тызэнгаўзэна, 19-ты полк пехаты, галоўная гаспода якога месьцілася ў Расенях. З рэкрутаў Горадзенскага, Лідзкага, Навагрудзкага, Слонімскага, Ваўкавыскага, Пружанскага і Пінскага паветаў быў зарганізаваны, пад камандваньнем барона Адама Бісьпінга, 20-ты полк пехаты, галоўная гаспода якога знаходзілася ў Горадні. З рэкрутаў Кобрынскага, Берасьцейскага, Беластоцкага, Сакольскага, Бельскага й Драгічынскага паветаў быў сфармаваны, пад камандваньнем Антона Гелгута, 21-ы полк пехаты, галоўная гаспода якога была ў Беластоку. З рэкрутаў Менскага, Дзісьненскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Мазырскага, Рэчыцкага і Слуцкага паветаў быў сфармаваны, пад камандваньнем графа Станіслава Чапскага, 22-і полк пехаты, галоўная гаспода якога месьцілася ў Менску.

З гэтых-жа паветаў, пад камандваньнем графа Міхала Тышкевіча, графа Караля Пшэзьдзецкага, Канстанціна Рацкага і Ксавэрага Абуховіча, былі зарганізаваныя чатыры палкі коньніцы: 17-ы, 18-ы, 19-ы і 20-ы. На фармаваньне гэтых палкоў Наполеон даў з касы вялікай арміі 500.000 франкаў.

Так, паводля загаду Наполеона, пад камандваньнем тагачасных нобэлмэнаў Беларусі, з сыноў Беларусі й Летувы было загарнізаванае войска, якое, аднак, не адыграла належнай яму ролі ў сувязі зь вялікім апаражаньнем Наполеона падчас зімовай пераправы церазь Бярэзіну.

Гэтак некалі завязваліся саюзы, а сяньня нашчадкі вялікае наполеонаўскай арміі хіба аб гэтым ня ўспомняць і ў фільме.

**Мікола Вярба**

# Беларусы у Аустраліі

ВЫСТАЎКА Ў ПЭРТ

«Гуд Нэйбур Каўнсіль» у Пэрт ладзіў выстаўку мастацтва й ручных вырабаў у сталіцы штату Ўэстэрн Аўстралія — горадзе Пэрт, якая адбылася ад 9 да 22 жніўня сёлета ў найбольшай залі гораду «Таўн Гол». Да ўдзелу ў выстаўцы быў запрошаны й аддзел Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў у Пэрт, які й наладзіў наш куток выстаўкі. У выстаўцы прыймалі ўдзел: Беларусы, «Эспэранто», Кітайцы, Югаславяне, Ангельцы, Эстонцы, Украінцы, Інданэзыйцы, Японцы, Палякі, Галяндцы, Мальтцы, Расейцы й інш.

Пасьля ўрачыстай цэрэмоніі адкрыцьця выстаўкі, заля штодзённа, ад раніцы да вечара, была поўнай ад гледачоў. Наш беларускі куток карыстаўся вялікім пасьпехам. Шмат хто дапытваўся аб працэсе працы беларускай жанчыны пры ткацьні ці вышываньні тых рэчаў, якія былі выстаўленыя. Многіх не задавальнялі вочы — яны жадалі аглядаць той ці іншы экспанат, трымаючы яго ў руках. Дзяжурныя вэтэраны давалі вычэрпваючыя адказы на ўсе пытаньні наведвальнікаў, раздавалі інфармацыйныя брашуркі ў ангельскай мове «Белараша» і іншыя інфармацыйныя матарыялы аб Беларусі ў ангельскай мове. З прыемнасьцю трэба адцеміць факт, што назоў нашай краіны ўжо ня быў навінаю, кажны тут ужо ведае нас, як апрычоны народ, знаёмы агульна зь ягонай дзяржаўнасьцю.

Навет нашыя ўсходнія суседзі Расейцы не асьмельваліся гэтым разам выступаць супраць нашага аддзелу і наагул усяго беларускага, наадварот, і яны выказвалі сымпатыі й спагады.

Сярод Палякаў чуліся частыя нараканьні на былых і сучасных польскіх правадыроў, што яны ніколі ім не расказвалі аб Беларусі і гэтых прыгожых рэчах, якія цяпер яны тут угледзілі. Дзяжурныя вэтэраны кажнаму й як мага ясна й далікатна расказвалі аб Беларусі. Не спадабалася гэта верхаводам польскае калёніі ў Пэрт, а калі яны напасьледак адважыліся падыйсьці да нашага аддзелу і ўбачылі у нас нашую беларускую сьвятасьць — абраз Вострабрамскай Божай Маці, дык аж пабялелі ад злосьці — «то пшэцеж крулёва короны польскей», на што пачулі ветлівы праўдзівы адказ, якім чынам гэтая нашая сьвятасьць сталася каралевай кароны польскай. Калі ў залю прыбыла карэспандэнтка каталіцкай газэты гэтага штату «Сандэй Тайм», дык гэтыя палячкі акружылі яе й давай прасіць, каб яна апублікавала ў газэце, што Беларусы няпраўна выставілі гэты абраз, аднак карэспандэнтка, відаць, дала мала веры Палякам, хоць і паабяцала зьмясьціць аб гэтым зацемку. Але перад гэтым падыйшла да дзяжурнага вэтэрана й распытала ў яго. У выніку гэтага абяцаная Палякам зацемка аб «крулёвай короны польскай» так і не паявілася ў газэце. Гэты дробны інцыдэнт вельмі вымоўна сьветчыць аб поўнай нягraматнасьці польскіх верхаводаў і аб іхным захопніцкім шавінізьме.

Розныя дзяржаўныя школы ды каталіцкія канвэнты прыходзілі на выстаўку арганізаванымі групамі, уважна аглядалі выстаўку ды засыпалі рознымі пытаньнямі. Калі дзяжурны пачынаў расказваць аб працы беларускай жанчыны і аб Беларусі, ейнай прыгожай прыродзе, што дэкаруе чатыры разы ў год наш край, дзеці рассаджваліся на падлозе і ўважна слухалі. За імі станавіліся настаўнікі і іншыя дарослыя наведвальнікі. Усе тады ў выабражэньні пераносіліся ў далёкую Беларусь, зьбіралі апаўшыя з дрэваў жоўтыя лісты ўвосень, ляпілі зь сьнегу бабы ды прывозілі ў хату з багатага лесу зялёныя ялінкі, то ўзноў зьбіралі кветкі на сенажацях, васількі ў жыце, біліся чырвонымі яечкамі на Вялікдзень і званілі ў званы на царкоўнай званіцы. Кажны хацеў слухаць яшчэ больш, аднак надыходзіў час, калі малыя й вялікія слухачы і аглядальнікі нашага кутка павінны былі зь ім расстацца. На разьвітаньне часта казалі: «Пабачу Цябе там, на маім „голідэй", калі на гэта будзе час».

Удаласьць нашага кутка, яго густоўны ўбор і дабранасьць экспанатаў, як і добрыя, старанныя інфармацыі вэтэранаў былі з націскам адзначаныя пры закрыцьці выстаўкі. Гэтая выстаўка была сфільмаваная на каляровы фільм. Наш аддзел быў фільмаваны на працягу цэлых чатырох хвілін.

На гэтым месцы трэба зладжыць падзяку сп. сп. Лейку, Міхновічу, Дарэўскаму, сп-ні Ляшкевіч, спадарству Марозам і іншым, а так-жа Беларусам з Брысбэйн, якія пасьпяшаліся з дапамогай і выдатна прычыніліся да ўпрыгожаньня выстаўкі, паймення сп-ням Супрун, Кавалеўскім і Яцкевіч.

**Данат Сьвільскі**

### БАНКАВАЕ КОНТО «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

Рэдакцыя і Выдавецтва «Бацькаўшчыны» адкрылі ў Мюнхэне сваё банкавае конто, на якое ў далейшым просім усіх нашых Прадстаўнікоў, Кальпартэраў, Арганізацыі і паасобных Грамадзян ува ўсіх краінах расьсяленьня Беларусаў пераказваць грошы за газэту, гэтак і за кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны», адрысуючы гэтак:

**Bankkontonummer: 357-125 Bayerische Hypotheken- und Wechsel-Bank, München.**

Яшчэ раз паўтараем нашую спросьбу, што на банкавых пераводах трэба заўсёды дакладна абазначаць, ці дадзеныя грошы перасылаюцца за газэту ці за кніжкі і якія. Калі-ж адначасна будуць перасылацца грошы і за кніжкі і за газэту, тады трэба дакладна абазначыць, колькі за кніжкі (і якія) і колькі за газэту.

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

## ШУКАЮЦЬ

**Бацькоў і брата** зь вёскі Чыжыкі Івацэвіцкай воласьці Косаўскага павету, якія ў 1945 годзе былі ў францускай зоне Нямеччыны, шукаў Сіткевіч Кастусь. Весткі слаць на прадстаўніка газэты «Бацькаўшчына» ў Ангельшчыне.

### АСАБІСТАЕ

Дзяцюк 29 год, рост 168 цм., на добрай працы ў Францыі, хоча пазнаёміцца з суродзічкай беларускай, украінскай або расейскай нацыянальнасьці векам да 29 год у мэтах жанімства. Пісаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны» пад «Н».

## Нашыя Прадстауніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
Mr. M. Palashuk, 17 Sparks Ave, Fairfield, Vict., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
Mr. W. Bielmach, 3518 de Bullion St., Montreal, Q. Canada.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**